

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ДЗЕЯЧАЎ "САЛІДАРНАСЬЦІ" ЗНОЎ АРЫШТОЎВАЮЦЬ, АЛЕ ЎЖО Ў БЕЛАРУСІ

Затрыманьне старшыні самага ўплывовага ў Польшчы, вядомага на ўвесь сьвет прафсаюзу - адна з самых дзікіх акцый сёньняшняга беларускага рэжыму, але, на жаль, напэўна не апошняя.

**14 траўня без пяці хвілін пятнаццаць гадзін у Менску былі арыштаваны старшыня незалежнага прафсаюзу Польшчы "Салідарнасьць" Мар'ян Кшаклеўскі і тры яго калегі, якія прыехалі ў Беларусь па запрашэньню нашых незалежных прафсаюзаў. Прабыўшы некалькі гадзін пад арыштам, польскія госьці пад канвоям лукашэнкаўскіх сьпецслужбаў былі дэпартаваны на радзіму.**

Дэлегацыя "Салідарнасьці" прыбыла ў Беларусь 13 траўня з рабочым візітам. Планаваліся сустрэчы з рабочымі і прафсаюзнымі дзеячамі. Госьці зьбіраліся выступіць на заводзе аўтаматычных ліній, на што спачатку атрымалі дазвол. Але 14 траўня сустрэчу на прадпрыемстве забаранілі, і яна адбылася на школьным стадыёне каля завода, у час перапынку і працягвалася 15 хвілін. Пасьля абеду дэлегацыя накіроўвалася ў польскае пасольства. На вуліцы да палякаў падыйшлі восем чалавек у цывільным і патрабавалі сесьці з імі ў машыну. Спадар Кшаклеўскі пачаў пратэставаць супраць такога абыходжаньня і спрабаваў растлумачыць, хто ён такі. Яго груба запіхнулі ў машыну - "форд" з прыватнымі нумарамі. Як паведаміў у тэлефоннай размове з польскім радыё перакладчык Валеры Буйвал, які быў сьведкам затрыманьня, ён распазнаў людзей у цывільным. Гэта былі супрацоўнікі аховы прэзідэнта, якія прымалі ўдзел у арыштах бастуючых рабочых метраналітэну. Валеры таксама сказаў, што на яго думку, сьпецслужбы не хацелі дапусьціць, каб госьці прынялі ўдзел у маніфестацыі салідарнасьці з Юрыям Хадыкам і Вячаславам Сіўчыкам, якая адбылася ў Менску праз пару гадзін пасьля арышту палякаў. У міліцыі Мар'яну Кшаклеўскаму з сябрамі спачатку тлумачылі: нагодай да затрыманьня была адсутнасьць у іх пры сабе пашпартоў, хаця пры арышце ніхто дакументамі не цікавіўся. Потым прад'явілі абвінавачаньне - стандартнае ў сёньняшняй Беларусі -арганізацыя несанкцыянаванага мітынгу. Як толькі затрыманыя хацелі зьвязацца з пасольствам, у міліцыі адразу перасталі працаваць усе тэлефоны. Польскія дыпламаты даведаліся аб месцазнаходжаньні сваіх грамадзян толькі дзякуючы званку аднаго з беларускіх прафсаюзных дзеячаў. Пасьля вызваленьня і да самай польскай мяжы ў Берасьці, ад сяброў "Салідарнасьці" не на крок не адыходзілі супрацоўнікі сьпецслужбаў. Польскі консул у Берасьці паведаміў, што так дэпартуюць толькі крымінальных злачынцаў. А палове восьмай 15 траўня Мар'ян Кшаклеўскі з калегамі быў ужо ў Беластоку.

У той жа дзень а 15-й гадзіне ў сядзібе Беластоцкай "Салідарнасьці" адбылася прэс-канферэнцыя, на якой старшыня незалежнага прафсаюзу паведаміў журналістам аб інцыдэньце, што адбыўся з імі ў Менску. Былі прадстаўленыя два лісты: адзін, які дазваляў сустрэчу з рабочымі, і другі, падпісаны міністрам прамысловасьці Беларусі, які гэтую сустрэчу забараніў. Кшаклеўскі сказаў, што ў Беларусі такое можа здарыцца з любым замежным грамадзянінам. Таксама ён паведаміў, што пад час іх затрыманьня ў міліцэйскім пастарунку паляк і назіралі, як супрацоўнікі рыхтаваліся да дэманстрацыі ў падтрымку галадаючых Хадыкі і Сіўчыка, як выдаваліся шчыты і дубінкі, і гэта нагадала яму Польшчу часоў ваеннага становішча. Спадар Мар'ян параіў польскаму тэлебачаньню паказаць сьпектаклі, якія ладзяцца БТ з удзелам Лукашэнкі, каб палякі зразумелі сітуацыю ў суседняй краіне.

Пасьля прэс-канферэнцыі ў Беластоку адбылася маніфестацыя ў знак пратэсту супраць затрыманьня ў Беларусі польскіх грамадзянаў і ў падтрымку правоў чалавека ў нашай краіне. Больш за тысячу чалавек сабраліся каля сядзібы "Салідарнасьці" на вуліцы Суражскай. Напачатку спадар Кшаклеўскі падзякаваў людзям за падтрымку яго асабіста і тых, якія зараз сядзяць у турме і галадаюць. Ён падкрэсьліў, што "Салідарнасьць" не зьбіраецца ўмешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі, але справа свабоды - справа ўсяго сьвету. Пасьля калона дэманстрантаў, наперадзе якой несьлі транспарант "Патрабуем забесьпячэньня правоў чалавека на Беларусі", рушыла да беларускага консульства ў Беластоку. Пад час шэсьця і перад консульствам людзі скандзіравалі: "Прэч з камунай!", "Вольныя прафсаюзы Беларусі!" Беларускаму консулу была перададзена петыцыя з пратэстам супраць абуральнага трактаваньня польскіх грамадзян. Консул, які на дзіва размаўляў па-беларуску, абяцаў перадаць яе свайму ўраду.

Пасьля падзей апошніх месяцаў афіцыйныя польскія асобы ўхіляліся ад асуджэньня парушэньня правоў чалавека ў нашай краіне. Пасьля інцыдэнту з старшынём "Салідарнасьці", і Міністэрства замежных справаў Польшчы, і старшыня Сейму, і прэм'ер-міністр выказалі свой непакой сітуацыяй, якая склалася. Прэзідэнт Квасьнеўскі сказаў, што пасьля гэтага выпадку польска-беларускія адносіны могуць пагоршыцца.

**Д.КІСЕЛЬ.**

**P.S.: Міністэрства замежных справаў Беларусі накіравала польскаму боку ноту пратэсту, расцаніўшы дзеяньні Мар'яна Кшаклеўскага як... "умяшальніцтва ва ўнутраныя справы суверэннай краіны". У сваю чаргу зьнешнепалітычнае ведамства Польшчы накіравала беларускаму ўраду сваю ноту пратэсту. У ім, у прыватнасьці, гаворыцца, што інцыдэнт у Менску можа істотна пагоршыць двухбаковыя адносіны паміж дзяржавамі.**

## СВАБОДУ ПАЛІТЫЧНЫМ ВЯЗЬНЯМ!



На мінулым тыдні прадстаўнікі шэрагу грамадзкіх арганізацый Горадні наладзілі шэраг пікетаў у падтрымку беспадстаўна арыштаваных пасьля падзеяў 26 красавіка людзей, якія працягваюць галадоўку ў засьценках турмы. Пікетчыкі пратэставалі таксама супраць усталяваньня на Беларусі дыктатуры.

**Вінцук МАЛЬСКІ.**
**Фота: Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

## *НІЯКІЯ АРЫШТЫ І РЭПРЭСІІ НЯ СПЫНЯЦЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ ФРОНТУ*

**9 траўня ў Менску прайшоў чарговы Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". Сойм разгледзеў сітуацыю ў краіне і тактыку дзейнасьці БНФ ва ўмовах разгортваньня рэпрэсій супраць Фронту і яго кіраўнікоў. Было адзначана, што нягледзячы на тое, што Пазьняк і Навумчык знаходзяцца на нелегальным становішчы, Хадыка і Сіўчык сядзяць у лукашэнкаўскіх засьценках, на кватэрах усіх старшынь раённых радаў горада Менску праведзены вобыскі, была разгромлена штаб-кватэра БНФ, а Фронт атрымаў папярэджаньне ад Міністэрства юстыцыі, дзейнасьць Фронту ні на хвіліну не перапынялася і ня будзе перапынена.**

Сойм заявіў аб гатоўнасьці БНФ працягваць працу і ва ўмовах забароны і ў падпольлі. Так было вырашана, што на выпадак забароны БНФ увесь склад Сому аўтаматычна ўваходзіць у склад аргкамітэту па ўтварэньні новай арганізацыі. Выпрацавана і назва гэтай арганізацыі, але спадар Валянцін Асташынскі палічыў, што абнародаваць яе заўчасна.

Сойм адзначыў, што арыштаваныя кіраўнікі Фронту Юры Хадыка і Вячаслаў Сіўчык, а таксама сем грамадзянаў Украіны, зьяўляюцца палітычнымі вязьнямі. Упершыню з часоў Сталіна ў Беларусі афіцыйна і адкрыта зьявіліся палітычныя вязьні, што ставіць нашу краіну па-за ўсёй Эўропай.

Сойм зьвярнуўся да ўсіх арганізацый Фронту весьці збор подпісаў за вызваленьне Хадыкі і Сіўчыка і заклікаў абодвух вязьняў спыніць галадоўку, бо таталітарны рэжым Лукашэнкі ня спыніцца і перад умарэньнем голадам.

Разам з тым было адзначана, што кульмінацыйны пункт змаганьня з лукашызмам пройдзены. Пачалася агонія рэжыму. Перш за ўсё яна выражаецца ў тым, што КДБ, МУС і войска траціць давер у А.Лукашэнкі. Асабліва не давярае прэзідэнт міліцыі. Зараз уся яго стаўка на асабістую ахову і некалькі элітных падразьдзелаў, якія закормліваюцца акладамі ў 4 мільёны штомесяц.

Сойм зьвярнуў асаблівую ўвагу на працу сярод моладзі. Актыўнасьць менскіх студэнтаў не знайшла развіцьця ў іншых універсітэцкіх гарадах Беларусі і гэта адкрывае перад рэгіянальнымі арганізацыямі непачаты край работы. Вялікая ўвага надаецца і працы ў рабочым асяроддзі.

**Станіслаў СУДНІК.**

## СЬВЯТА ЗАЛАТОГА КАЛАСКА

**Шэраг травеньскіх камуністычных сьвятаў, рэанімаваных сёлета рэжымам, завяршаў новаўведзены Дзень дзяржаўнага сьцяга і герба. З гэтай нагоды на цэнтральным пляцы горада 12 траўня адбыўся мітынг.**

Невялікімі купкамі сарамліва тоўпіліся выканкамаўскія чыноўнікі. Большасьць з іх, здаецца, самі разумелі ўсю недарэчнасьць сітуацыі. Асноўную колькасьць "удзельнікаў сьвята" склалі старшакласьнікі гарадзенскіх школаў. Іх наяўнасьць удакладнялася педагогамі строга па сьпісах. Некаторыя, адзначыўшыся, памкнуліся завугольлем наўцёкі. А адна руплівая настаўніца з 24-й школы правяла пераклічку па завяршэньні "мероприятия". Дзіўна, але нават камуністы-пеньсіянеры вяла адрэагавалі на заклік свайго прэзідэнта правесьці "массовые гулянья". Толькі адзін прадстаўнік прывілеяванай "касты", найбольш "дасьведчаны" у галіне геральдыкі і вексілалогіі выйшаў да мікрафона-"кулямёта". Дзядок гнеўна "расстраляў" бел-чырвона-белы сьцяг і яго прыхільнікаў. Болей выступоўцаў не знайшлося. Зайграў аркестр і ўсім прапанавалі накіравацца ў кінатэатр "Красная звезда" бясплатна паглядзець "Міколку-паравоза".

Антыхрысьціянскаму, антыбеларускаму рэжыму нашай краіны мала адвярнуць людзей ад Бога, трэба прымусіць іх маліцца залатому цяльцу. Мала забараніць спрадвечныя нацыянальныя сімвалы, трэба заставіць палюбіць псеўдазнакі. Ды ня столькі той брагі, колькі зьвягі. Прымусам і гвалтам абсурдная сімволіка ня стане мілай.

**Марцін КАЛАМУТНЫ.**

# НАЦЫЯ ЗДРАДНІКАЎ

**Дзяржаўнае сьвята - Дзень Перамогі - прайшоў пад недзяржаўнымі сьцягамі. Людзей рознай палітычнай арыентацыі, прыйшоўшых да вечнага агню аддаць даніну памяці загінуўшым, аддзялялі адзін ад аднаго міліцыя і салдаты. Беларусам чарговы раз далі зразумець, што на гэтым сьвяце ім ня месца.**



Шыканьнем ды выгукамі "фашысты", "недабіткі", "даць дубінай па галаве", сустрэлі ўдзельнікі афіцыйнага мітынгу памяці прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту і Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады, таксама прыйшоўшых да помніка загінуўшым, што ў Старым парку, каб ушанавадь памяць змагароў з фашызмам.

У лунаўшых над натоўпам савецкіх сьцягах амаль ня бачны былі ўзоры вынаходніцтва прэзідэнта ў галіне геральдыкі. Таму надзвычай цынічна выглядалі абвінавачаньні ў бок "зарвавшихся националистов", якія асьмеліліся прынесьці "незаконные, негосударственные флаги". Не забываліся паліць брудам "демократов и перестройку" і заранёў адабраныя прамоўцы з трыбуны. Марна рыхтаваўся зьвярнуцца да прысутных старшыня Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня Ветэранаў сп.Мельнікаў - даваць яму слова ніхто і не зьбіраўся.

Групу людзей пад нацыянальнымі сьцягамі аддзялялі міліцыянты і... салдаты і сяржанты асобнага батальёну вывадкі. У атачэньні "блакітнагаловых кажаноў" прыйшлося нават несьці кветкі да помніка. І толькі пасьля мітынгу міліцыя і вайскоўцы ўздыхнулі спакайней. Ветэраны і афіцыёз накіраваліся на парад духавых аркестраў, а "франтаўцы" - да Грунвальдскага каменя. "Здраднікі!" "Вам тут ня месца!" - крыкнуў хтосьці ўсьлед бел-чырвона-белай калоны.

Здраднікі... Гэтае слова за апошнія двесьце гадоў беларусы чулі неаднаразова. Дый ці магло быць інакш, калі пасьля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай наш народ ніколі не ваяваў за свае інтарэсы!

1812 год. Спроба ў ваеннай віхуры адрадзіць Вялікае княства. Адныя беларусы ваююць у войску Напалеона, другія - у войску Кутузава. У выніку - адныя здраднікі, другія - героі. Вялікай Расеі.

1863 год. У крыві затоплена паўстаньне "здрадніка" Каліноўскага. "Прадаўся" палякам.

1918 год. Беларусы не прызнаюць падпісаную бальшавікамі Берасьцейскую дамову і ствараюць незалежную дзяржаву. Зноў здраднікі. Ідзі сусьветнай рэвалюцыі.

Другая сусьветная вайна. Беларусаў забіваюць і камуністы і фашысты. Беларусы супрацоўнічаюць і тым і другім, ведаючы, што як нацыя яны не патрэбны ні арыйцам, ні "советским людям".

1996 год. Тысячы людзей пад амонаўскімі дубінкамі пратэстуюць супраць вяртаньня таталітарызму. Здраднікі! За краты!

І ня варта сёньня крыўдзіцца на сваіх ветэранаў пад чырвонымі сьцягамі. Іх ня ставілі да "сьценкі" ў 37-м, не стралялі ў Курапатах і Катыні, не раскулачвалі ў 39-м і 46-м. Іх ня кідалі пасьля Бухенвальда і Асьвенціма ў фільтрацыйныя лагеры і ГУЛАГі. Яны проста ня ў стане зразумець, што маюць сёньня тое, за што ваявалі, і тое, што будавалі пасьля вайны. Камунізм - гэта як натуральны адбор: выжывае мацнейшы і спрытнейшы. Калі гады моцы і спрыту засталіся за плячыма - ты нікому не патрэбны. І таму ня варта сёньня будаўнікам камунізму "пенять на других" і ўказваць дзе чыё месца.

А людзі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі і без падказак ведалі, дзе шукаць "сваё" месца. Грунвальдзкі камень ля Каложы. Сьвятое для кожнага беларуса месца. Тут увекапомнена памяць вялікай перамогі, аддаўшых жыцьцё ў войсках за СВАЮ РАДЗІМУ. Да сьціплай мемарыяльнай дошкі пакладзены кветкі. Хвіліна маўчаньня. Прынахіленыя сьцягі. Даніна памяці нашым Дням Перамогі.

**В.ДРЭМА.**

**НА ФОТАЗДЫМКАХ: супраць-стаяньне ля помніка загінуўшым.**
**Фота У.УЛАДАСЕВІЧА.**

## НОВЫ КІРАЎНІК ПАРТЫІ БНФ

9 траўня адбыўся Сойм Партыі БНФ. Сойм прааналізаваў незаконныя дзеяньні ўладаў супраць Партыі БНФ, якія выліліся ў неабгрунтаванае афіцыйнае папярэджаньне, а таксама ў рэквізіцыі бел-чырвона-белага партыйнага штандару. Сойм партыі разгледзеў арганізацыйнае пытаньне і часова даручыў абавязкі старшыні Партыі БНФ выконваць Юрасю Беленькаму.





# АНДРЭЙ ЯНУАР'ЕВІЧ ВЫШЫНСКІ ПА-РАНЕЙШАМУ НАТХНЯЕ ПРАКУРОРАЎ, альбо ПРАВАВЫ ІНЦЭСТ

**У мінулым нумары "ПАГОНЯ" пісала, што ў органах Міністэрства ўнутраных спраў палітычную абстаноўку ў краіне, ролю МУС у барацьбе прэзідэнта А.Лукашэнкі супраць народу і структурныя зьмены ў самім міністэрстве ацэньваюць, як занепад аператыўных службаў і пераарыентацыі міліцыі на жандарскія мэты.**

Сёньня прапануем вашай увазе аналіз становішча пракуратуры. Перш за ўсё трэба адзначыць, што пракуратуру любая дзяржава ствараe дзеля таго, каб было каму пільнаваць выкананьне законаў. Такім чынам, для пракурора закон - зьява недатыкальная, як для вартаўніка падахоўны склад. А што ў нас? А ў нас закон не парушае толькі лянівы. Пакінем у баку дробныя парушэньні маленькіх людзей, яны заўсёды былі, ёсьць і будуць. Вялікага ўплыву на палітыку яны ня маюць; разумная ўлада робіць так, каб законы ня шкодзілі малым людзям, тады і парушэньняў будзе менш. Паглядзім, як выконвае законы сама ўлада.

Сама ўлада на законы плюе, робіць гэта адкрыта, ганарыцца гэтым і нават падвяла пад свае паводзіны ідэалагічную базу. Маўляў, парушаныя законы - кепскія, і наадварот. У канцы красавіка ў Горадні праходзіла канферэнцыя юрыстаў. На ёй бяз жартаў дыскутавалася пытаньне аб канцэпцыі добрых і дрэнных законаў. Адзін з прэзідэнцкіх прыхільнікаў даказваў, што дрэнныя законы парушаць можна, праўда, ня нам, а прэзідэнту. Не паверыў бы, каб сам ня чуў. Я бы назваў такія погляды "прававы інцэст". Дайшло да таго, што прэзідэнт аддаў сакрэтную дырэктыву не выконваць законы. Што ў такіх умовах застаецца рабіць пракурору? Перакваліфікавацца ва ўпраўдомы.

Менавіта гэта і адбываецца сёньня ў органах пракуратуры.

Пракурорам гэта не ў навіну. У вестыбюле пракуратуры Гарадзенскай вобласьці пад партрэтам Леніна вісела ягонае ж выказваньне: "Закон ёсьць мера палітычная, ёсьць палітыка". За камуністамі кіраўнікі раённых і абласных пракуратур уваходзілі ў склад бюро райабкамаў, праводзілі лінію партыі. Потым па волі лёсу ім давялося апячатваць памяшканьні сваіх шэфаў, шэфы дрыжэлі ад страху і рыхтаваліся да пасадкі ў турму за ўдзел у дзяржаўным замаху. Пракуроры скарысталі момант і сталі паводзіць сябе незалежна ад уладаў. Аднак, як толькі ўлада выявіла прэтэнзіі на свабоду рук, пракуроры з дзіўным аднадушшам занялі свае пазіцыі за сьпінамі вертыкальных чыноўнікаў.

Прычым зрабілі гэта з тым асаблівым цынізмам, які выхоўваўся ў парткамах камуністаў. Некалі апошні пракурор БССР Георгі Тарнаўскі праславіўся сваім выказваньнем пра тое, што артыкул 5 Канстытуцыі СССР аб вядучай ролі КПСС недэмакратычны, аднак трэба чакаць, пакуль сама КПСС ня вырашыць гэты артыкул скасаваць. Адзін з сёньняшніх кіраўнікоў пракуратуры не пасаромеўся заявіць прэсе, што будзе выконваць не законы, а прэзідэнцкія загады. У свой час нешта падобнае казаў пра лінію партыі сумна вядомы кат Андрэй Януар'евіч Вышынскі. Што ж, калі шэф захапляецца Гітлерам, яго служка выбірае Вышынскага.

Сёньня уладамі ўсіх галінаў парушаны цэлы стос законаў, у тым ліку і крымінальны кодэкс. Непрыстойна ашальмавалі міліцэйскага міністра за тое, што ўжыў неяк ня так бюджэтныя сродкі. Разам з тым, прэзідэнт увогуле плюнуў на бюджэт. І нічога, усе ўцерліся. Генеральны пракурор мог бы паглядзець у акно свайго кабінету, тут жа сесьці за стол і ўзбудзіць крымінальную справу па фактах зьбіцьця насельніцтва горада Менску людзьмі ў міліцэйскай форме. Таксама ня трэба нікуды хадзіць, каб убачыць крымінал у зьбіцьці і арыштах дэпутатаў парламанту. Аднак маўчыць Генеральны. Ён не адрэагаваў нават на пасланьне Канстытуцыйнага Суду, у якім грунтоўна паказана, як і ў чым парушаецца заканнасьць.

Па зьвестках "ПАГОНІ", пракурорскія кадры падзяліліся ў сваіх адносінах да парушэньняў законаў. Тыя, хто маладзейшы і ня мае высокай пасады, асабліва не турбуюцца, бо ў іх сваё кола абавязкаў. На месцах таксама няма той напружанасьці, якая ўласьціва сталіцы і буйным гарадам. Другая частка, у асноўным сталага ўзросту, папросту лічыць сітуацыю цалкам натуральнай. Некаторыя з іх яшчэ памятаюць, як езьдзілі па калгасах з пісталетам і камандавалі сяўбой і жнівом, альбо руйнавалі трактарчыкі-самаробкі, сабраныя народнымі ўмельцамі.

У цэлым, пракуратура не забясьпечвае рэжым законнасьці ў краіне. Разьлічваць на яе ў справе захаваньня дэмакратычнага ладу не выпадае

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# ПАКІНЬЦЕ НАШЫХ ДЗЯЦЕЙ У СПАКОІ!

Мой сын вучань трэцяга класа СШ N 3. Школа зьяўляецца беларускай. Але на апошнім сходзе паведамілі, што "встаёт вопрос" аб яе пераводзе ў статус рускай, а гэта значыць, што пасьля чацьвёртага класа дзеці будуць вучыцца па-руску. Я не супраць рускай школы, але мяне як чалавека вельмі крыўдзяць і прыніжаюць такія хамскія адносіны ў дачыненьні да нашых дзяцей. Навошта ламаць душы і лёсы маленькіх дзетак, спадары кіраўнікі? І калі зараз з дзяцінства мы пачнем ламаць іх душы, дык будучыні ў нас ня будзе. Але ж, напэўна, ўсе жадаюць, каб у кожным доме панавала шчасьце. Гэтага можна дасягнуць толькі тады, калі з павагай і любоўю адносіцца да зямлі, на якой жывеш.

Мне хацелася б даведацца, у каго з Гарадзенскіх чыноўнікаў ад адукацыі з такой настойлівасьцю "встаёт вопрос" аб зьнішчэньні беларускай адукацыі? Чаму яны не пакінуць у спакоі нашых дзетак? Няхай бы лепей падумалі пра тое, як палепшыць якасьць той жа адукацыі (як беларускамоўнай, так і рускамоўнай). Няхай бы паклапаціліся пра належную зарплату настаўнікам, якія дзякуючы гэтым чыноўнікам -пачынаючы з "усенароднаабраных" - сталі амаль што жабракамі.

**Валеры КОСЬЦІН, бацька двух дзяцей.**

# ЧАС "ПАРНОЯЗЫЧНЫХ"

Гарадзенскія ўлады на апошнім паседжаньні гарвыканкаму абавязалі кіраўніцтва гарадзкіх школаў весьці з бацькамі вучняў "тлумачальную працу" наконт выбару мовы навучаньня. Лёс беларускай мовы ў школе з гэтага часу залежыць ад таго, даспадобы таму ці іншаму настаўніку гэтая мова ці не. Калі ж улічыць, што дзяржава не шкадуе сіл і сродкаў на зьнішчэньне "перажытку нацыяналізму" і на выхаваньне паслухмяных "парноязычных", то вынік тлумачальнай працы ў большасьці школаў прадбачыць няцяжка.

Як паведаміў карэспандэнту "ПАГОНІ" намесьнік старшыні гарвыканкаму Яўген Жабрун, колькасьць беларускамоўных класаў у новым навучальным годзе непазьбежна зьменшыцца.

**В.М.**

# ДАЖЫЛІСЯ!

Яшчэ 26 красавіка гэтага году ў Менску пад эгідай Міндзяржмаёмасьці павінен быў адбыцца конкурс. На яго планавалі выставіць пакет акцый Наваградзкага завода газавай апаратуры. Эканамічная сітуацыя патрабуе ахвяраваць частку маёмасьці і самастойнасьці. Але, як стала вядома, конкурс не адбыўся. Прычына банальная. Заявак на набыцьцё акцый не паступіла.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# МЯЖА ПАЧЫНАЕЦЦА З ... УНІВЕРСІТЭЦКАГА СЭЙФА

**Кіраўніцтва гарадзенскага універсітэту вырашыла ўзяць пад кантроль замежныя паездкі сваіх супрацоўнікаў.**

Усе выкладчыкі гэтай навучальнай установы з нядаўняга часу абавязаны здаваць замежныя пашпарты "пад ключ"."Дубликат бесценного груза" будзе выдавацца толькі пасьля пісьмовай заявы, у якой прыйдзецца пазначыць тэрмін і мэту чарговай паездкі.

# ПАДЗЯЛІЛІ ВАЛЮТНЫ ПІРОГ

**Гарадзенскі абласны Савет зацьвердзіў план валютных выдаткаў і прыбыткаў аблвыканкаму на 1996 год у памеры 2 мільёны 650 тысячаў долараў. Асноўнай крыніцай прыбыткаў па-ранейшаму застаюцца памежныя пераходы. Сёлета яны павінны прынесьці ў скарбонку мільён 240 тысяч долараў.**

Амаль палову валютных сродкаў (1 мільён 60 тысячаў) плануецца выдаткаваць на ахову здароўя. Мільён "зялёных" перападзе сельскай гаспадарцы. 300 тысяч атрымае камунальная гаспадарка вобласьці. На выдаткі чыноўнікам аблвыканкаму запланавана 150 тысяч долараў. Яшчэ 140 тысяч пакінутыя ў рэзерве. Дэпутаты прадставілі таксама аблвыканкаму права "карэктаваць" валютныя выдаткі і прыбыткі ў залежнасьці ад фактычнага паступленьня валюты.

**В.Л.**




...УХОДИЛИ ПРЕЗИДЕНТЫ НА ГРАЖДАНСКУЮ ВОЙНУ...

## ДА ВЕДАМА УСТАНОЎ, ПРАДПРЫЕМСТВАЎ І ЖЫХАРОЎ ГОРАДНІ

**Гарадзенскія цеплавыя сеткі паведамляюць, што адключэньне магістральных і ўнутрыквартальных цеплавых сетак горада адбудзецца па зонах у наступныя тэрміны:**

**13.05 - 6.06**

**Занеманская частка горада:** раён вуліц Фамічова, Гая, Я.Купалы (цотны бок да N 70; няцотны бок акрамя N 61-65), Л.Чайкінай (да N 28), Рэпіна, В.Соламавай (N 78-134), Навакастрычніцкая (N 1-5,6,7,14), Пестрака, Лелявеля, Паповіча, Перамогі (цотны бок да N 30), няцотны да N 31).

**Прынеманская частка горада:** раён вуліц Лідзкай, Белуша (акрамя N 2-10), пр.Касманаўтаў, 2-га пер.Белуша, Захарава (акрамя N 9-11), Шчорса, Кляновай.

**10.06 - 4.07**

**Цэнтральная частка горада:** раён вуліц Будзёнага (цотны бок да N 36, няцотны да N 13), Карбышава, Тэльмана, Свярдлова, В.Троіцкай, Ажэшкі (да N 19 і N 29-33 па няцотным боку, да N 14 па цотным боку), Гарадзенскага, Замкавай, Віленскай, Цеглянай, Камунальнай, Сацыялістычнай, К.Маркса, Кірава, Тэлеграфнай 11 ліпеня, Горкага (да N 45 па няцотным боку, да N 20 па цотным боку), Антонава, Белуша (да N 10), Захарава (да N 11), Паліграфістаў, пр.Касманаўтаў (N 11-13а), вул.Парахавой N 12, 14, пер.Парахавы,21.

**8.07 - 1.08**

**Раён вуліц Горкага** (няцотны бок ад N 49 і далей, цотны ад N 72 і далей), Дамброўскага, Урублеўскага, БЛК (цотны бок да N 38, няцотны бок), ур."Пышкі", вул.Курчатава (да вул.Горкага), Сухамбаева, пр.Будаўнікоў (цотны бок), Камарова, Багуцкага, Пушкіна, Даватара, пер.Рэйманта (ад N 19 і далей па няцотным боку і ад N 16 і далей па цотным).

**5.08 - 29.08**

**Прынеманская частка горада:** раён вуліц Мендзялеева, Пралетарскай, Палескі парк, Азёрская шаша, Чырвонаармейскай ( ад N 61 і далей), Шчорса,58, Касьцюшкі, 17 Верасьня, Будзёнага (цотны бок ад N 42 і далей няцотны бок ад N 23 і далей), Дзяржынскага, Астроўскага, Акадэмічнай, Брыкеля, Таўлая, Ліможа, Цэрашковай, Ажэшкі (ад N 22 і далей па цотным боку, ад N 35 і далей па няцотным боку), вул.Рэйманта (да N 17 па няцотным боку, да N 14 па цотным боку), Курчатава (ад N 32 і далей), Ватуціна, Горкага (цотны бок N 22-64, няцотны 47, 47а), Каліноўскага, пр.Будаўнікоў (няцотны бок), БЛК (цотны бок ад N 40 і далей), вул.Болдзіна.

**Занеманская частка горада.** Раён вуліц пр.Я.Купалы (няцотны бок N 61-65, цотны N 72 і далей), 40 год Перамогі, Індурская шаша, Кабяка, Томіна.

Даведкі па тэлефонах: **720-319, 61-184, 479-262.**

# НЕ ІДЗЕ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ? ПРАВЯДЗЕМ ВАКЦЫНАЦЫЮ!

**З 13 траўня згодна пастановы Кабінету Міністраў ад 29 красавіка ў краіне распачалася кампанія пагалоўных прышчэпак ад дыфтэрыі.**

**З гэтай нагоды нашае інтэрв'ю з загадчыкам эпідэміялагічнага аддзела Гарадзенскага абласнога цэнтру гігіены і эпідэміялогіі Уладзіленам Епіхіным.**

- Апошнім часам эпідэміялагічная сітуацыя ў сьвеце пагоршылася. У суседніх Расеі і Украіне зафіксаваны ўспышкі эпідэміі гэтай сьмяротнай хваробы. Хварэюць у асноўным дарослыя, бо дзецям абавязкова робіцца прышчэпкі.

У Беларусі выпадкі захворваньняў дыфтэрыяй здараліся ва ўсіх абласьцях, акрамя Гарадзенскай. На пачатак гэтага году на Гарадзеншчыне было прывіта 65 працэнтаў дарослага насельніцтва, і гэта дало свой плён.

***- І тым ня менш - чарговы тур прышчэпак. Ходзяць чуткі, што на вуліцах будуць лавіць бамжоў...***

- І правільна, таму што менавіта прадстаўнікі г.зв. "групы рызыкі" звычайна ў першую чаргу становяцца ахвярамі і разносчыкамі інфекцыі. Абавязкова прышчапіцца павінны і тыя людзі, якія штодня маюць кантакт з вялікай колькасьцю людзей - транспартнікі, выкладчыкі, прадаўцы і г.д.

***- Вакцынацыя ўсяго дарослага насельніцтва патрабуе вялікіх сродкаў...***

- Тут нам дапамог Міжнародны Чырвоны Крыж, які бясплатна прадставіў вакцыну.

***- Ці ня можа вакцына ад дыфтэрыі выклікаць нежаданыя наступствы для здароўя?***

- Верагоднасьць гэтага менш аднаго працэнта. Калі ж такія выпадкі ўсё ж будуць,то мы маем усе неабходныя сродкі для аказаньня дапамогі.

***- Ці хопіць у Вас сілаў у адведзены ўрадам дзесяцідзённы тэрмін (з 13 па 23 траўня) прышчапіць такую вялікую колькасьць людзей?***

- Прышчапіцца можна ў паліклініках, участковых бальніцах, сьпецыяльна створаных прышчэпачных пунктах, прычым, не абавязкова па месцу жыхарства. У выключных выпадках прышчэпку можна будзе атрымаць не выходзячы з хаты. Што ж датычыць дзесяцідзённага тэрміну, то нядаўна ўрад працягнуў прышчэпачную кампанію да 1 чэрвеня. Абараніце сваё здароўе!

**Гутарыў Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**



# РЭКЛАМА ☎45-29-96, факс: (0152)45-35-61



**28 траўня 1996 г.**

## 4 АУКЦЫЁН

МАЛАЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ НОВОГРУДОК

*па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці г. Навагрудак*

| Назва аб'екта, яго адрас | Тэрмін арэнды памяшкання | Агульная плошча (кв.м.) | Пачатковая цана продажу (млн.руб.) |
|---|---|---|---|
| Сталовая N 5, вул.Паркавая, 2 | продаж ва уласнасць | 282 | 365.5 |
| Сталовая N 5, вул.Паркавая, 2 | продаж ва уласнасць | 224 | 256.7 |
| Крама "Кулінарыя", пл. Леніна, 9 | 15 год | 105.5 | 22 |
| Крама N 20, вул. Інтэрнацыянальная, 3 | продаж ва уласнасць | 246 | 513.2 |
| Крама N 37, вул. Гастэлла, 3 | продаж ва уласнасць | 110 | 42.7 |

Атрымаць поўную инфармацыю аб аб'ектах і падаць заяву на удзел у аукцыёне можна па адрасу: г. Навагрудак, вул.Міцкевіча, 9а, пакой 28. Тэл. (297) 20-851

**30 траўня 1996 г.**

## 19 АУКЦЫЁН

ГРОДНА

*па продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці г.Гродна*

| Назва аб'екта, яго адрас | Тэрмін арэнды памяшкання | Агульная плошча (кв.м.) | Пачатковая цана продажу (млн.руб.) |
|---|---|---|---|
| ДГП "Крынічка", вул. Дамброўскага, 47 | продаж ва уласнасць | 450,7 | 460 |
| Права арэнды памяшкання, вул. Сацыялістычная, 14 | 5 гадоў | 191,9 | 14 |
| Права арэнды памяшкання, вул. Гарнавых, 7 | 5 гадоў | 94,5 | 8,5 |
| Будынак з ПСД, вул. Антонава, 10 | продаж ва уласнасць | 70 | 74 |

Атрымаць поўную інфармацыю аб аб'ектах і падаць заяву на удзел у аукцыёне можна па адрасу: г.Гродна, пл.Леніна 2/1 пакоі 57, 58. Тэл. (0152) 452-981, 472-956

### ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЮ

* канапу б/у танна, дыван **2х3** (зялёныя колеры, новы). Тэл. **5-83-36**.

* пачатае будаўніцтва гаража ў раёне Панемунь (з цэглай). Тэл. **6-38-82**.

* месца пад гараж на мясакамбінаце з будматэрыяламі. Тэл. **33-48-18**.

* фотапавелічальнік б/у (у добрым стане) **- $ 20**, радыёлямпы (танна). Тэл. **33-37-09**, Максім.

* атласны вясельны ўбор п. **44-46 - $50**, дзіцячую калыску-чацьвёрку. Тэл. **31-34-81**.

* шы-тцу - маленькага белазалатога сабачку, кароткая морда, доўгая чолка, моцная, персьпектыўная для выстаў і племяннога выкарыстаньня. Выдатная радаслоўная. Танна. Тэл. у Асіповічах **(2235) 2-46-17**.

* лесьвіцу металічную вінтавую зборную **- $ 200**, плітка "кабанчык" **-35** тыс. за **1** квф.м, балон вялікі газавы **- 200** тыс.руб., мыйка чыгунная **- 200** тыс.руб., ложак палутарны б/у **- 300** тыс.руб. Зьвяртацца: п.Паўднёвы, вул.Славянская, **22**.

* гусіны пух і пер'е, ложак падлеткавы б/у, каробкі ваконныя **125х90** см. Зьвяртацца: Горадня, вул.Шчаснага,**5** пасьля **17** гадзін.

* баян, тэлевізар "Віцязь**-36 733**" на запчасткі. Тэл. **6-31-44** пасьля **16.00**.

* тумбачкі пад тэле- і радыёапаратуру. Тэл. **5-64-42**.

* Чарапіца чырвоная **- $ 7,5** за **1** кв.м. Тэл. **44-60-44** (хатні), **47-59-75** (працоўны).

* мяккую мэблю (велюр) з Польшчы **- $ 290**, відэаплэер (Японія) **- $ 170**, радыётэлефон (дзьве трубкі, радыё, гадзіньнік) **- $ 75**, электраводанагравальнік **- $ 80**. Тэл. **2-46-30**.

* радыёстанцыі аўтамабільныя "Midland" USA, простыя і надзейныя, кабель РК**-50** дыяметр **9** мм, РК**-75** дыяметр **12** мм, раз'ёмы да радыёстанцый, стэрэанавушнікі ТДС**-15** (усё новае). Адрас: **220073**, Менск**-73**, п/с**-164**.

* ІЖ**-2715** пасьля капрамонту, рухавік першы камплект **- $ 85**, задні мост у складзе **- $ 75** (гарантыя). Менск, вул.Пензенская,**36**, вк.**1**.

* дачу ў г.Ашмяны ў раёне Сухой (склеп, летнік, студыя). Даведка: г.Смаргонь, тэл. **5-11-22**, увечары.

* плот-палатку надзіманы ПСН-**6М - $ 700**.

* аўтамабільныя радыёстанцыі.

* помпу вакуумную АВР**-60**, установку вакуумную ВХ**-1**Б, УРМ-**3.279 048**, УРМ **- 3.279.04**. ОНІОН. Тэл. у Менску **(0172) 69-32-40**.

* дачу ў в.Новікі. Тэл. **6-55-63** (хатні), **47-59-75** (працоўны).

* разнастайныя камплекты да спальні вытворчасьці РБ коштам ад **400 000** да **700 000** рублёў. Горадня, вул.Сухамбаева,**7**, кв.**92**.

* аксаміт, падбівачную тканіну, трыкатажнае палатно белага колеру, тканіну з аднабаковым клеевым пакрыцьцём, гуртам і ў розьніцу. Тэл. **31-24-27**.

* ванну чыгунную **150** см (салатавая). Тэл. **44-60-44** пасьля **19.00**.

* прычэп б/у аднавосевы да трактара (танна) Тэл. **6-55-63** (хатні), **93-53-70** (працоўны).

* два палутарных ложкі (спажытыя), новы жаночы строй (п.**50**), шэры мужчынскі строй (**48-182**), мужчынскія плашчы (п.**52**, р.**5**, п. **46-48**), бульбу на пасадку або сьвіньням (танна), мужчынскія чаравікі "ЦЭБА" (**41,5**). Тэл.**33-79-95**.

* жарабя, узрост **8** месяцаў. Тэл. у Менску **71-10-77**.

* электракатлы-воданагравальнікі з аўтаматычным рэгуляваньнем, зададзенай тэмпературай для катэджаў, кабель РК**-50**, РК**-75**, радыёстанцыі аўтамабільныя з антэнамі. **220073**, Менск**-73**, п/с **164**.

* шпалеры, тапеты вытворчасьці Францыі. Тэл. у Менску **20-96-98**.

* спальны гарнітур "Медуніца", кухню "Айсе", гаражныя замкі, набор у ванны пакой. Тэл. **33-86-35**.

* скуру натуральную, цялячую, на плашч - чорную, карычневую - на куртку, аўтамабіль ЗАЗ**-968** А (**1980** г.). Тэл.**33-50-52**.

* мяккую мэблю б/у, кухню белую б/у, халадзільнік "Кодры" б/у. Тэл. **6-74-51**.

* сталовыя салодкія раньнія гатункі (пасадачны матэрыял) вінаграда. Тэл. **91-53-23**, Міколу, ці пішыце **230005**, п/с **135**.

* восі да УАЗ (дзьве), сетку "рабіца", ацяпляльныя эл.батарэі на **7** секцый, фанеру, ДВП, пакрышкі жыгулёўскія наварныя з камерамі на ЗАЗ, баян тульскі, халадзільнік **2**-камерны, дыван в'етнамскі, тоўсты. Тэл.**33-14-27**.

* сталь ліставую. Тэл.**2-19-89**.

* вязальную машыну (Японія). Тэл. **47-59-75** (працоўны), **6-55-63** (хатні).

* акардыёны "Кансона" (Германія, поўны), "Вельтмайстар" (танна). Тэл. **(0172) 40-00-58**.

* блокі газасілікатныя, дошкі **40** мм, фанера, ванны, запчасткі да аўтамабіля ЛУАЗ, бойлер, газ.калонку, настольную газ.пліту, спартыўны ровар, кафлі, ВАЗ**-2106** (**1988** г.), сядло на каня, матацыкл ІЖ "Юпіцер**-2**", шкло арміраванае. Тэл. **99-33-15**.

* тэрмінова танна дачу з хатай **3** х **5**, сарай, **10** сотак. Тэл. **31-56-65**.

* ровар "Тандэм**-2**" **1**-месны, ТК "Голдстар", ч/б "Таўрас**-611**" (б/у), кінескоп новы, скуру на куртку. Тэл. **2-23-07**,

* помнік гранітны танна. Тэл. у Менску **264-27-69**.

* цэмент. Тэл **5-94-29**

### КУПЛЮ

* **1-2**-пакаёвую кватэру новай планіроўкі (першы паверх не прапаноўваць). Тэл. **2-51-62**.

* **2**-пакаёвую кватэру ў Менскім раёне, да **50** км ад Менску. Адрас: **231300**, г.Ліда, Паўднёвы гарадок, д.**15**, кв.**28**.

* скураную куртку. Тэл. **2-19-89**.

### МЯНЯЮ

* **4**-пакаёвую кватэру ў г.Вілейцы (**67/47** кв.м, **2** паверх **5**-павярховага дома, тэлефон, лоджыя, два падвалы) на кватэру ў г.Менску. Тэл. у Менску **39-08-02**, у Вілейцы **- 5-66-71**.

* інгалятар для астматычных хворых "Беротек" або супрацьалергічны сродак "Кетотифен" на інгалятар "Дитек" Тэл. **2-26-25**.

* **1**-пакаёвую кватэру ў Магілёве на кватэру ў Горадні ці любым іншым горадзе Гарадзенскай вобласьці. Тэл. у Менску **99-26-75**.

* дом цагляны, **45** кв.м (жыльлёвая плошча **- 29** м.кв., бяз зручнасьцяў, **7** сотак) на **3**-пакаёвую кватэру з асобнымі пакоямі. Горадня, вул.Шчаснага,**5**.

* **1/2** драўлянага **2**-павярховага дома з прыбудовай, падрыхтаванасьцю **80%**, **6** сотак участку ў раёне Граньдзіцкага рынку на дзьве **2**-пакаёвыя кватэры. Можна **3**-х + **1**-пакаёвую. Магчымыя варыянты. Горадня, вул.Савецкіх пагранічнікаў, д.**54**, вк.**4**.

* частку дома (**3** пакоі пл.**42/55**, асобны ўваход, прыродны газ, каналізацыя, сумесны санвузел, цяпліца) на **3**-пакаёвую кватэру (выкупленую). Зьвяртацца: Горадня, завул.Шышкіна, **2**, кв.**2**, р-н Азёрскай шашы.

* **2**-пакаёвую прыватызаваную кватэру ў Мазыры на **1**-пакаёвую прыватызаваную ў Горадні, альбо прадаю. Тэл.**33-88-35**.

### ПАСЛУГІ

* электрамантаж. Тэл.**6-25-19**.

* электраправодка. Тэл. **5-11-08**.

* таніроўка шкла аўтамабіляў. Тэл. **47-17-65**. з **17.00** да **18.00** (акрамя суботы і нядзелі).

* дастаўлю папутны груз з Масквы, машына, адкрыты кузаў, **2** п. **14** т. Тэл. **6-48-14**.

* рэпетытарства, кантрольныя, курсавыя работы па бел.мове і літаратуры. Тэл. **6-17-13**.

* вяжу на машыне з нітак заказчыка. Тэл. **47-18-47**.

* выпякаю мясныя рулеты на вясельле. Тэл. **99-48-72**.

* Выкладала ангельскую мову каля трох гадоў. Зараз хачу выхоўваць вучняў прыватна. Тэл. **45-39-14**.

### РОЗНАЕ

* патрабуецца брыгада будаўнікоў для будаўніцтва драўлянага дома ў в.Падлабеньне (**10** км ад Горадні). Тэл. **47-17-62**.

* прапаную амерыканскую методыку "Як стаць багатым". Заяўка+канверт з адрасам: **222160**, г.Жодзіна, п/с **39**.

* аддам кацянят у добрыя рукі. Тэл. **6-80-04**.

* вадзіцель ВСДЕ шукае працу, санкніжка. Тэл. **33-59-88**.

* здаю пакой. Тэл. **6-15-48**.

* шаноўныя Белакозы! Тэрмінова затэлефануйце. Чакаем у госьці. Сям'я Крывашэяў.





**КУПОН • ПРЫВАТНАЯ АБ'ЯВА**

**Умовы разьмяшчэньня**

Для бясплатнай публікацыі на купоне прымаюцца выключна аб'явы прыватнага характару.

На адным купоне можна даць аб'яву толькі ў адну рубрыку, разборліва напісаўшы тэкст і адрас.

Выразаны купон з тэкстам аб'явы адпраўце поштай, альбо прынясіце ў рэдакцыю самі.

**БЯСПЛАТНА**

6 Імя і прозьвішча ..........

Адрас (тэлефон) ..........

Рубрыка (ПРОДАЖ, КУПЛЯ, МЯНЯЮ, РОЗНАЕ,ПАСЛУГІ)

Тэкст ..........

*Купон сапраўдны на працягу тыдня з моманту выхаду "ПАГОНІ"*

ПАГОНЯ 230023, Горадня, вул. Дамініканская,1

# MEMORIA

Сорак два гады таму назад 16 траўня 1954 году ў казахскім пасёлку Кінгіры, палітвязьні 3-га лагаддзяленьня Асобага Сьцяпнога лагеру паднялі паўстаньне. Былі вызвалены тры лагпункты - адзін жаночы і два мужчынскіх. На велізарных абшарах СССР і падняволеных ім краін сорак дзён існаваў маленькі астравок свабоды. Пяць з паловай тысяч чалавек больш за месяц былі вольныя ў імперыі зла.

Пасьля сьмерці Сталіна і расстрэлу Берыі, нявінна асуджаныя людзі былі ўпэўнены, што іх павінны выпусьціць і патрабавалі справядлівасьці. Адміністрацыя лагеру адчувала, што абурэньне вязьняў можа такія ж, які і вы. Сёньня мы тут, заўтра вы. Сярод нас ёсьць людзі, якія бралі Бярлін, абаранялі Ленінград, штурмавалі Кёнігсберг..." Адказам на гэтыя словы быў лязгат затвораў аўтаматаў.

Для перамоў з паўстанцамі арганізавалася камісія МУС і Пракуратуры ў складзе Ягорава, Даўгіх, Вавілава, Бачкова, Разанава, Алюшкіна. Яны абяцалі патрабаваньні зьняволеных перадаць у адпаведныя інстанцыі і разгледзець у законным парадку. А самі ў гэты час рыхтавалі крывавую расправу. У ноч на 26 чэрвеня ў паўстаўшую зону былі ўведзеныя 5 танкаў Т-34 і аўтаматчыкі, у гэты ж час па радыё перадаваўся зварот да зьняволеных, у якім жыве на Украіне, на радзіме мужа.

Наогул, гэта была сапраўдная воля. Мы адпачывалі ад непасільнай працы, не было зьдзеку над людзьмі. Можна было спакойна сустракацца са знаёмымі. Беларусы усе трымаліся разам.

- Самыя трагічныя падзеі адбыліся 26 чэрвеня. Дзе Вы знаходзіліся, калі ў зону зайшло войска? Што Вас чакала пасьля падаўленьня паўстаньня?

- Калі пачаўся штурм, я была ў сваім бараку. Прагучала каманда выходзіць. Мы не падпарадкаваліся. На вуліцы стралялі людзей і душылі танкамі. Адна літоўская пара

# СОРАК ДЗЁН ВОЛІ
## *СЯРОД*
# ІМПЕРЫІ ЗЛА

**Антычалавечы савецкі рэжым на працягу дзесяткаў гадоў імкнуўся ператварыць людзей у "будаўнікоў камунізму" - подлых жорсткіх жывёл, згодных за лепшы паёк здрадзіць радзіме, па загаду "кіруючай і накіроўваючай" партыі, без ваганьня выканаць любое, нават самае гнюсная злачынства. Носьбіты пачварнай ідэалогіі зьнішчалі ў чалавеку ўсё чалавечае. Непакорных забівалі або саджалі ў турмы і лагеры. Але былі людзі, якія пры любых умовах захоўвалі гонар і сумленьне. Нават у жахлівым ГУЛАГу яны не скарыліся, а змагаліся за волю і годнасьць.**

перарасьці ў адкрытае выступленьне супраць дэспатызму. З дапамогай "стукачоў" выяўляліся найбольш рашуча настроеныя. Знайшоўшы любую зручную зачэпку, такіх адпраўлялі ў крытыя турмы. За два месяцы да паўстаньня ў лагер было пераведзена каля 650 крымінальнікаў. З іх дапамогай начальства спадзявалася ўціхамірыць палітычных. Гэтага не адбылося. Атрымаўшы моцны адпор, крымінальнікі нейкі час сядзелі ціха. Але нагодай да пачатку паўстаньня сталі менавіта іх дзеяньні.

Увечары 16 траўня яны зрабілі пралом у муры жаночай зоны і з крыкамі і сьвістам кінуліся да вязьнярак. Ахова актыўнага супрацьдзеяньня не рабіла (што пацьвярджаюць афіцыйныя крыніцы). Палітычныя рашуча выступілі ў абарону жанчын і не дапусьцілі гвалту. Адміністрацыя, каб супакоіць вязьняў, абяцала дазволіць да адбою зносіны паміж лагпунктамі. На наступны дзень людзі пайшлі на працу, а калі вярнуліся ў зону, убачылі, што праломы ў мурах замураваныя, з двух бакоў пастаўлены вышкі з аўтаматчыкамі. Шмат людзей было пачаджана ў турму жаночай зоны. Увечары, абураныя падманам зьняволеныя, ня гледзячы на страляніну, рушылі вызваляць таварышаў. Аб'ядналіся ўсе тры лагпункты. Начальства з ахоўай уцякло з тэрыторыі зоны. У тую ноч загінула 13 вязьняў, 43 было паранена. З лагерных служачых 10 атрымалі лёгкія цялесныя пашкоджаньні.

Вязьні абралі лагерную камісію, якую ўзначаліў удзельнік вайны, былы камандзір артылерыйскага палка Кузьняцоў К.І. Была наладжана сістэма самакіраваньня, арганізавана абарона. Усе паўстанцы падпарадкоўваліся загадам свайго ўраду. Працавалі сталоўкі, харчаваньне выдавалася па зацьверджанай норме. Параненым і хворым аказвалася лекарская дапамога. Выпускаліся сьценгазеты, радыёўстаноўка перадавала паведамленьні і музыку, ладзіліся канцэрты. Сьвятары розных канфесій, якія сядзелі ў лагеры, адпраўлялі ў апошні шлях загінуўшых і асьвячалі заканханыя пары.

Паўстанцы патрабавалі ад уладаў: пакараньня павінных у забойствах людзей, прыезду прадстаўніка Прэзідыуму ЦК КПСС, перагляду спраў асуджаных па фальшывых абвінавачваньнях. У кінгірцаў быў свой сьцяг. Белае палотнішча з чорнай акантоўкай, а пасярэдзіне чырвоны крыж і паўмесяц. Белы колер азначаў, што сваіх мэтаў зьняволеныя хочуць дамагчыся мірным шляхам, чорны - жалоба па загінуўшых, а крыж і паўмесяц - спадзяваньне на падтрымку народаў сьвету. Для таго, каб перадаць праўду пра паўстаньне і свае патрабаваньні, быў сабраны кароткахвалевы перадатчык, зьмайстраваны паветраны шар і папяровыя зьмеі, з дапамогай якіх распаўсюджваліся ўлёткі. Праз радыёвузел вялася агітацыя салдат, акружыўшых зону. Сьценагрфісты Сьпецлага запісвалі гэтыя выступленьні і некаторыя з іх захаваліся. Вось урывак аднаго: "Салдаты! Мы не баімся вас і просім не заходзіць да нас у зону, не страляйце па нас, не паддавайцеся берыяўскай бандзе. Мы іх не баімся, так як не баімся сьмерці. Нам лепш памерці з голаду ў лагеры, чым здацца берыяўскай бандзе. Ня пэцкайце свае рукі плямамі крыві, якую маюць на сваіх руках афіцэры". Таксама была група агітатараў - "рупарыстаў", якія абыходзілі зону і з дапамогай рупараў зьярталіся да салдат: "Вам гаворац чакісты, што мы ворагі народа. Ведайце, мы паведамлялася, што войскі ўведзены "зыходзячы з просьбы асноўнай масы зьняволеных аб стварэньні ёй нармальных умоў для жыцьця і працы".

Людзі, узброеныя цэглямі, кавалкамі арматуры і бітым шклом не маглі аказаць супраціўленьне танкам. Пачалося забойства. Некалькі жанчын ляглі перад танкамі, спадзяючыся, што яны спыняцца. Савецкія танкісты ехалі па людзях не прыпыняючыся. Паўстаньне было задушана. Па афіцыйных зьвестках загінула 46 чалавек, паранена 52 (па неафіцыйных - 600). 40 вайскоўцаў атрымалі цялесныя пашкоджаньні. Доблеснае савецкае войска магло сьвяткаваць перамогу!

Змаганьне вязьняў Кінгіру не было дарэмным. Гэта быў адзіны выпадак у гісторыі ГУЛАГу, калі для высьвятленьня абставін падзей была створана дзяржаўная камісія ў складзе міністра МУС Круглова, старшыні КДБ Сярова і Генеральнага пракурора Рудэнкі. Асоблагі былі ліквідаваны, а праз некаторы час улады былі вымушаны пачаць вызваленьне палітвязьняў.

Пад сьцягам паўстаньня аб'ядналіся людзі розных нацыянальнасьцяў і веравызнаньняў. У Кінгіры былі прадстаўнікі амаль з усяго сьвету. У склад групы распаўсюджвальнікаў улётак уваходзіў японец Ямасо-Чота. Сярод вязьняў знаходзіўся нават негр - капітан танкавых войскаў ЗША, які выпадкова заехаў на сваім танку ў савецкую зону ў Нямеччыне. Бралі актыўны удзел у паўстаньні беларусы. Сьведка кінгірскіх падзей спадарыня Вера Касмовіч згадзілася адказаць на некаторыя мае пытаньні.

- Спадарыня Вера, скажыце калі ласка, за што Вас арыштавалі? У чым абвінавачвалі?

- Мяне арыштавалі 14 студзеня 1949 году. За што - не ведаю. Я нікога не забіла, нічога ня скрала і ніякай шкоды савецкай уладзе не нанесла. Абвінавацілі мяне ва ўдзеле ў падпольнай, нацыяналістычнай, антысавецкай, тэрарыстычнай арганізацыі. 31 траўня таго ж году ў Менску суд ваеннага трыбуналу прысудзіў мне 10 гадоў зьняволеньня і 15 гадоў пазбаўленьня правоў. У няволі я была больш 7 гадоў. Вызвалілі 10 траўня 1956 году, а ў жніўні 1967 рэабілітавалі.

- Якую працу прымушалі Вас выконваць у Кінгіры? Наогул, як выкарыстоўвалі жанчын у савецкім канцлагеры?

- Ніякай розьніцы паміж жанчынамі і мужчынамі не было. Выкарыстоўвалі аднолькава. Нас нават прымушалі працаваць ноччу, бо мужчын баяліся выводзіць у цемнаце. Мы будавалі горад Джэсказган. Капалі траншэі, будавалі дамы. Зямля там вельмі цьвёрдая, прыходзілася дзяўбці яе кіркамі. Імёнаў у нас не было, замест іх - нумары, якія былі прышытыя на адзеньні. Мой нумар быў СЦ-160.

- Як Вы ўспрынялі паўстаньне? Як жылі гэтыя сорак дзён?

- Калі нашыя хлопцы, беларусы, прыбеглі ратаваць нас ад крымінальнікаў, у бараку прагучаў заклік "Жыве Беларусь!". Была вялікая радасьць ад сустрэчы. Раней мы маглі абменьвацца толькі запіскамі - "ксівамі", кожная заканчвалася літарамі "Ж.Б.", што азначала - жыве наша Радзіма. А тут мы ўсе разам маглі сказаць гэта громка. У час паўстаньня быў забясьпечаны парадак. Усе выконвалі рашэньні Камісіі Самакіраваньня. Жанчыны насілі пры сабе мяшэчкі з бітым шклом, але яны нам так і не спатрэбіліся. Адна наша дзяўчына, Шыманская Марыя, стала сакратаром паўстанцкага ўраду. У 1955 г. ёй прысудзілі 10 гадоў. Дзякуй Богу, яна вярнулася жывая і зараз заканханых - яны пазнаёміліся ў лагеры і пад час паўстаньня пажаніліся - узяўшыся за рукі, сама кінулася пад танк. Наш барак пачалі заліваць вадой, калі гэта не дапамагло, пусьцілі газ. Мужчыны спрабавалі матрацамі закрыць вокны, але газ прасочваўся паўсюль. Мы, задыхаючыся, ляжалі на падлозе. Пасьля зноў была каманда ад нашых кіраўнікоў, каб выходзілі. Дапамагаючы тым, хто страціў прытомнасьць, мы выйшлі. Нас выгналі у стэп, паклалі на зямлю тварамі ўніз. Так пратрымалі цэлы дзень. Калі загадалі ўстаць, убачылі цэлую процьму начальства са шматлікімі медалямі і ардэнамі на грудзях. Яны пераглядалі нашыя справы, каго адпраўлялі ў турмы, каго ў іншыя лагеры, каго пакідалі на месцы. Мяне і маю сяброўку Марыю Азарка ўвечары вярнулі ў зону. Там усё было зроблена так, каб зьнішчыць сьляды злачынства: трупы прыбраныя, кроў змытая. Усё чыста, быццам нічога не адбылося. Назаўтра нас зноў пагналі на працу. Свабода скончылася.

- Спадарыня Вера, ці падтрымліваеце Вы сувязі з беларускімі ўдзельнікамі Кінгірскага паўстаньня зараз?

- Мы вельмі зьдняныя, сталі больш блізкімі, чым родныя. Дзелім паміж сабой і радасьць і гора. Кожная сустрэча - гэта сьвята нашых душ. Вось нядаўна сустракаліся ў Барысаве, на сямідзесяцігоддзі нашага сябра Міколы Пазьняка. У самім паўстаньні ён ня быў, яго перад гэтым вывезьлі ў турму. Ён расказаў цікавы факт з сёньняшняга жыцьця. Яго, як удзельніка вайны, афіцыйна віншавалі са сьвятам Перамогі. Падаравалі вазу, далі за яе распісацца. А потым падсунулі яшчэ адну паперу да подпісу, гэта быў зварот супраць дзеяньня БНФ і заклік ліквідаваць Фронт. Ён адмовіўся ад падарунка за такі кошт.

- Дзякуй вялікі, спадарыня Вера! Жадаю Вам, Вашым родным і сябрам моцнага здароўя і шчасьця. І каб мы з Вамі дачакаліся таго часу, калі Беларусь будзе сапраўды вольнай і багатай краінай.

Да ўсяго сказанага хочацца толькі дадаць, што, напэўна, жывуць яшчэ камуністычныя злачынцы. Усім ім вельмі падабалася ціхая і ветлая Беларусь. Яны з усяго СССР імкнуліся пасьля адстаўкі прыехаць да нас. Можа і зараз недзе ходзяць па нашых гарадах з лукашэнкаўскімі сьцягамі і партрэтамі Сталіна, зьвіняць медалямі, атрымаванымі за забойства людзей, і зноў імкнуцца загнаць нас у лагеры.

**Д.КІСЕЛЬ.**

**Прыведзеныя зьвесткі аб паўстаньні ўзятыя з часопіса вязьняў таталітарных сістэм "Воля", NN 2-3, 1994 г.**

# *ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА*

**220 гадоў таму ў Горадні каралеўскім старастам Антоніем Тызэнгаўзам пачала выдавацца "Gazeta Grodzienska" — першая на тэрыторыі сёньняшняй Беларусі і другая у Вялікім Княстве Літоўскім — пасьля віленскай. З лета 1776 г. яна выходзіла штотыднёва на працягу сямі гадоў, пакуль не адхілілі ад пасады самога А.Тызэнгаўза.**

Ня дзіўна, што кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, знаходзячыся у Варшаве, адразу зьвярнуў увагу на новае пэрыядычнае выданьне. Пазнаёміўшыся са зьместам, ён пачаў дасылаць А.Тызэнгаузу цэнзурныя заўвагі, але ў досыць мягкай форме. Дарэчы, кароль заўважыў і памылкі у тэксьце. Аднак гэтай каралеўскай цэнзуры было яшчэ страшна далёка да савецкага г. зв. "Галоўліту".

Паступова гарадзенская газета разбудоўвалася тэматычна. Міжнародныя навіны передрукоўваліся з нямецкіх выданьняў. Зьмяшчаліся ўрадавыя аб'явы, прыдворная хроніка, сэймавыя паведамленьні і мясцовыя зьвесткі. Апошнімі рэдакцыя абменьвалася з іншымі газетамі. Напрыклад, аб побыце Ягамосьці караля 15-17 верасьня 1777 г. у самой Горадні і 4 кастрычніка наступнага году — у Слоніме. Удзялялася ўвага і ўсходнім беларускім ваяводствам, якія пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай далучыла да сваіх абшараў Расейская імперыя.


XXXV.
GAZETA
GRODZIENSKA

Нумароў Gazety захавалася, на жаль, няшмат з прычыны таго, што асноўныя архівы Варшавы згарэлі, калі немцы у 1944 г. практычна зьнішчылі горад. Аднак тое, што магчыма, вывучыў дацэнт Купалаўскага універсітэту А.Мілінкевіч, які прачытаў аб першай беларускай газеце рэферат на навуковай канферэнцыі з гэтай нагоды. Яна адбылася у Новым каралеўскім замку.

Пазьней у нашым горадзе выходзілі дзьве новыя газеты — "Kurier Litewski" і "Wiadomosci Grodzienskie". Але калі Рэч Паспалітая перастала існаваць, цар закруціў гайкі, і ў Горадні пачалі выдавацца выключна акупацыйныя газеты на мове, на якой размаўлялі пазьней Ленін, Бедны, Горкі, Сталін, Палітбюро ЦК КПСС, і спрабуе размаўляць наш першы прэзідэнт.

Дацэнт Мілінкевіч выказаў пажаданьне, каб абласная "Гродзенская праўда" пераняла старую назву—той першай беларускай польскамоўнай газеты. Аднак адказны сакратар "Г.П." Мікалай Шлык патлумачыў, што новая шыльда была падрыхтавана мастаком Уладзімірам Качаном па заказу рэдакцыі яшчэ пасьля жнівеньскага путчу ў Маскве. Абласное начальства аднак не дазволіла зьмяніць назву. А сёньня гэтага не хочуць ужо і ў рэдакцыі, разумеючы, што зьмена назвы ўплывае на тыраж, які і так зьменшыўся утрая—да 33 тысяч.

На канфэрэнцыі ў Новым замку намесьнік начальніка абласной управы культуры і інфармацыі Уладзімір Амелька, між іншым, сказаў наступнае: "Газета "Пагоня"—вельмі насычанае інфармацыйнае выданьне. Часам мы ставім яе ў прыклад іншым журналістам. Маўляў, вучыцеся адшукваць інфармацыю, як умеюць гэта рабіць у "Пагоні". Ён, аднак, і папракнуў газету: "Сваю апазіцыйнасьць, нязгоду з палітыкай прэзідэнта трэба выказваць больш цывілізаваным чынам..."

**Сяргей МАКСІМОВІЧ.**

# *НАШ КАЛЯНДАР*

**17 траўня**
**1986 г.** У Горадні адкрыўся Дом-музей Максіма Багдановіча.
**18 траўня**
**1910 г.** Памерла Эліза Ажэшка, славутая пісьменьніца, удзельніца вызвольнага паўстаньня 1863 году. З 1869г. жыла ў Горадні.
**19 траўня**
**1840 г.** Выйшаў указ расейскага цара Мікалая І пра скасаваньне дзеяньня Статуту ВКЛ 1588 г. на тэрыторыі Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губерняў.
**20 траўня**
**1918 г.** Памёр Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі), літаратурны і грамадзкі дзеяч, мастак, ідэолаг беларускага вызвольнага руху.
**22 траўня**
**1792 г.** Ашмяны атрымалі герб.
**23 траўня**
**1842 г.** Нарадзілася польская пісьменьніца Марыя Канапніцкая. Неаднаразова бывала ў Горадні, спачувала і падтрымлівала беларускі чын.
**1871 г.** У Парыжы памёр Яраслаў Дамброўскі, выбітны дзеяч вызвольнага руху на Беларусі, генерал Парыжскай Камуны.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

СПОРТ

# АЎРУ НАД ГАЛАВОЙ МАЕ НЯ КОЖНЫ

**У гульцоў адной каманды над галавой была аўра таленту і майстэрства. У іх сапернікаў - шматпудовыя гіры на нагах. Прыкладна так можна ахарактарызаваць гульню менскай "Атакі-Аўры" з "Нёманам", якая адбылася 13 траўня.**



На працягу ўсёй гульні ў футбол гуляла адна каманда - "Атака". Гаспадароў поля, гарадзенцаў, ад буйной паразы выратавала толькі фатальнае нешанцаваньне гульцоў сталічнай каманды. Адзіны ў сустрэчы мяч быў забіты на самым пачатку другога тайму. Выдатны пас Аляксандра Ярмаковіча скарыстаў 17-гадовы Юры Дарашкевіч. Праз некалькі хвілін пасьля яго ўдару мяч трапляе ў штангу. Затым выдатныя шанцы падвоіць лік мелі Аляксандр Гаўлуш, Алег Хмяльніцкі, Юры Малееў, зноў Юры Дарашкевіч. Перавага сталічных гульцоў была настолькі адчувальнай, што Якаву Шапіру не прыйшлося выпускаць на поле вопытнага Ігара Гурыновіча. У актыў жа "Нёмана" можна занесьці хіба што ўдары Драчылоўскага і Саваня ў першым тайме, ды нядрэнную гульню ў гэты прамежак часу Марата Белязякі, якога на другі тайм, як звычайна, "не хапіла". Скнчаў гульню "Нёман" з трыма нападнікамі. На дапамогу Саваню Іван Ляцяга выпусьціў Барысейку і Савіцкага. Аднак адзіны рэальны галявы момант у другім тайме ля брамы "Атакі" стварыў... яе абаронца Леанід Кучук, які ледзь не "зрэзаў" мяч у сваю браму.

Канцоўка ж гульні нагадвала паляваньне на маманта вішнёвымі косткамі. Мітусьні і энэргіі шмат, а вынік - нулявы. Пасьля гэтай гульні каманды засталіся на палярных месцах у турнірнай табліцы: "Атака" - у лідарах, "Нёман" - у хвасьце. І рызыкуе там застацца надоўга: бліжэйшыя гульні - з менскім "Дынама" і МВКЦ.

**Вітаўт РУДНІК.**

**Фота Яраслава ВАНЮКЕВІЧА.**

# ДЭМАРШ НЕПАЗЬБЕЖНЫ?

**РВАР (Менск)-"Гродна-93" - 67:70; 70:68**

**Паўгалоднаму герою Джэка Лондана для перамогі ў баксёрскім паядынку не хапіла кавалка мяса. Магчыма, нечага падобнага бракавала баскетбалістам "Гродна-93", нечакана саступіўшым у паўторным матчы 1/2 фіналу серыі плэй-оф чэмпіянату краіны клубу з "жахлівай" назвай РВАР (Рэспубліканскае вучылішча алімпійскага рэзерву).**

У бягучым першынстве Беларусі гарадзенцы здабылі 32(!!!) перамогі запар. Але зрыў, насьпяваўшы спакваля, стаўся непазьбежным. Рэч у тым, што ад пачатку году баскетбалісты каманды не атрымліваюць ні рубля заробнай платы (прэміяльныя ўвогуле ня мроіцца). Стала вядома, што напярэдадні хатніх гульняў з РВАРам (барацьба ў паўфіналах вядзецца да трох посьпехаў) шэраг асноўных гульцоў вырашылі наладзіць дэмарш - адмовіцца ад удзелу ў гэтых сустрэчах. Адчайны крок, на які наважыліся баскетбалісты, добра зразумелы - колькі можна гуляць на бязьмежным энтузіязме? Маладым прафесіяналам проста сорамна знаходзіцца на ўтрыманьні бацькоў і жонак.

Упершыню за гады суверэннасьці наш горад атрымаў цудоўны шанц займець чэмпіёна краіны ў мужчынскіх гульнёвых відах спорту (гарадзенскія футбол і гандбол занядбаныя, хакеісты і валейбалісты заваявалі сёлета толькі трэція месцы). Будзе прыкра, калі рэальна і патэнцыйна мацнейшы на Беларусі "Гродна-93" разваліцца на вачах. Некалькі вядучых майстроў (Грыгор'еў, Маклакоў, Шарко, Гладкі) зьяўляюцца заезжымі "легіянерамі", і калі фінансавае становішча ня выправіцца, у Горадні яны не застануцца.

Застаецца спадзявацца, што новаму прэзідэнту клуба (ім нядаўна стаў добравядомы Аляксандр Мілінкевіч) у гэткай крытычнай сітуацыі ўдасца пазьбегнуць скрайнасьцяў.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## СПОРТ АДНЫМ РАДКОМ

Уладальнікам Кубку Расеі ў складзе маскоўскага "Лакаматыву" стаў выхаванец гарадзенскага футболу, член зборнай Беларусі Сяргей Гурэнка. Нагадаем, што ў 1993 годзе ў складзе "Нёмана" ён заваёўваў і Кубак нашай краіны.



Сёньня ў фінале Кубку краіны па футболе сустракаюцца менскае "Дынама" і мазырскі МВКЦ. Незалежна ад зыходу гульні мазырскі клуб атрымае пуцёўку у розыгрыш Кубку ўладальнікаў Кубкаў Эўрапейскіх Краін. У Кубку УЕФА выступяць менскія "Дынама" і "Дынама-93". У Кубку Інтэртота гонар краіны будзе адстойваць "Атака-Аўра".



Бліскуча выступілі на асабіста-камандным чэмпіянаце Эўропы у Капенгагене беларускія гімнасты. У камандным заліку толькі прыкрыя памылкі ў практыкаваньнях на перакладзіне адкінулі зборную Беларусі на трэцяе месца. Пераможцам у шматбор'і другі год запар стаў Іван Іванкоў. Тры залатыя медалі ў практыкаваньнях на асобных снарадах на рахунку Віталя Шчэрбы. Учора ў Бірмінгеме стартаваў жаночы чэмпіянат кантынента. Асаблівыя надзеі - на вопытных Сьвятлану Багінскую і Алену Піскун. У складзе каманды і гарадзенка Сьвятлана Тарасевіч.



Баскетбалісткі Горадні ня здолелі ў паўфінале чэмпіянату краіны хоць раз перамагчы сталічны "Гарызонт-1" і саступілі ў серыі з лікам 0:3.

**В.Р.**

# "НАДЗЕЯ" БУДЗЕ ЖЫЦЬ ДОЎГА

**Традыцыйны міжнародны конкурс юных кампазітараў імя Максіма Багдановіча ўразіў сваім прадстаўніцтвам. "Надзея-96" сабрала юных творцаў з 22 гарадоў Беларусі, Украіны і Расеі. За тры конкурсныя дні прагучала звыш 200 музычных сачыненьняў ( у тым ліку было падрыхтавана 4 балеты).**

Усе ўдзельнікі і госьці былі падзелены на чатыры ўзроставыя катэгорыі, што забясьпечыла дыферэнцыйны аценкавы падыход. У выніку Гран-пры ў памеры 100 долараў здабылі Цімур Шчарбакоў з Менску (сярод малодшых) і львавянка Ганна Пасаман (катэгорыя да 18 год). Аўтарытэтнае журы вызначала таксама дыпламантаў трох ступеняў (прэміі адпаведна па 1 мільёну, 800 і 600 тысячаў беларускіх рублёў). Шчодрыя грашовыя і рэчавыя падарункі былі забясьпечаны найперш Беларускім Фондам Сораса (выканаўчы дырэктар Пітэр Берн, каардынатар культурных праграмаў - Алесь Анціпенка, кіраўнік маладзёжных праектаў - Натальля Пляханава).

Упершыню спрычынілася да фундатарства і Міністэрства культуры краіны, хаця ўдзел чынавенства, па меркаваньню некаторых арганізатараў, унёс поўны сумбур. Конкурс, безумоўна, удаўся і значная заслуга ў гэтым належыць старшыні Асацыяцыі кампазітараў Гарадзеншчыны, галоўнаму "ідэолагу" фестываля Віталю Радзівонаву. Спадар Радзівонаў як раз з тых асобаў, хто "у даль плыве па моры гукаў і іншых за сабой вядзе". Так што будзем спадзявацца на працяглае існаваньне "Надзеі".

**Ладзік МАЙНІЧ.**

# СЬВЕТЛЫЯ КРАЯВІДЫ СЬЦЯПАНАВА

**Выстава Георгія Сьцяпанава адкрылася ў "Гранд-залі" (вул.Будзённага, 48). Мастак, добра вядомы як пейзажыст, і на гэты раз не адышоў ад абранага накірунку. Сьцяпанаў не прэтэндуе на неардынарныя здабыткі, на нейкія адкрыцьці, ён з тых, хто забясьпечвае пераемнасьць традыцый класічнай тэхнікі. Невыпадкова на вернісажы сабралася шмат вучняў, маладых калегаў аўтара.**

Сьветлыя краявіды Сьцяпанава, створаныя з надзвычайнай замілаванасьцю, нясуць гледачу настраёвасьць і душэўны спакой. У сталыя гады мастак здолеў захаваць наіўны погляд на навакольле. І ў гэтым вабнасьць ягоных твораў.

**Ладзік МАЙНІЧ.**

## ГАРАДЗЕНСКІЯ БАЗАРЫ

Вясна яшчэ не зьмяніла асартымент гародніны і садавіны, якая прапануецца на Цэнтральным рынку Горадні. Зьявіліся толькі шчаўе і маладая цыбуля.

цыбуля маладая (пучок) - 3-4 тыс. рублёў
шчаўе - 3-3,5 тыс.руб.
бульба - 2,3 тыс.руб.
капуста - 7 тыс.руб.
агуркі - 13-17 тыс.руб.
морква - 3,5 тыс.руб.
хрэн (пучок) - 3-3,5 тыс.руб.
яблыкі - 10-12 тыс.руб.
грушы - 25-30 тыс.руб.
памідоры - 35 тыс.руб.
апяльсіны - 14 тыс.руб.
лімоны - 23 тыс.руб.
бананы - 17-18 тыс.руб.
гарбуз - 33 тыс.руб.
ананас - 36 тыс.руб.
гарэх арахісавы - 28 тыс.руб.
перац - 80 тыс.руб.
вінаград - 65 тыс.руб.
урук - 50 тыс.руб. за кілаграм
ківі - 4 тыс.руб. за штуку

Экзатычныя прадукты, па-праўдзе, ужо прыеліся. Пакупнікі чакаюць сьвежую айчынную гародніну, якая неяк адметна хрусьціць на зубах і прыемна напаўняе страўнік.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# *ЯНА СТАНЧЫК - ДЗЯЎЧЫНА, ЯКОЙ ПАДАБАЕЦЦА ЎСЁ*




Каралевай конкурсу прыгажосьці "Горадня-96" стала семнаццацігадовая вучаніца школы N31 Яна Станчык. Па гараскопу - Вадалей. Захапляецца ўсім патроху - лыжным спортам, харэграфіяй... Але найбольш любіць чытаць. Бліжэйшая мэта ў Яны - атрымаць юрыдычную адукацыю, а потым паспрабаваць зрабіць кар'еру. Самымі галоўнымі якасьцямі жанчыны лічыць жаноцкасьць, абаяльнасьць, розум, гонар. У мужчынах цэніць сілу, адукаванасьць, пачуцьцё гумару і клапатлівасьць. На пытаньне, што больш за ўсё ёй не падабаецца ў жыцьці, Яна так і не знайшла адказу. Пакуль ёй падабаецца ўсё.

**Фота У.УЛАДАСЕВІЧА.**

Рада гарадзенскага аддзяленьня Беларускага Дэмакратычнага аб'яднаньня "Ветэран" запрашае ўдзельнікаў войнаў, вязьняў палітычных рэпрэсій, ветэранаў працы на вечарыну адпачынку, што адбудзецца 21 траўня 1996 году ў 18 гадзін у памяшканьні педвучылішча па вул.Леніна,4. Адмыслова запрашаем настаўнікаў і медыцынскіх работнікаў пенсійнага ўзросту. У праграме вечарыны вялікі канцэрт.

Газеце "ПАГОНЯ" часова **патрабуецца карэктар**, які ўмее працаваць на кампутары. Зьвяртацца непасрэдна ў рэдакцыю або па тэл. **45-35-61, 45-29-96.**

К Р Ы М І Н А Л

## УНУКАВА ПАДЗЯКА

**Падзеі, якія разгортваліся той ціхай травеньскай ноччу ў вёсцы Брузгі Гарадзенскага раёну, былі падобныя на здымкі якога-небудзь крутога баявіка. Вясковая хата ачэплена міліцыянтамі, побач стаяць "уазікі" і "хуткая дапамога", рыхтуюцца да штурму ўзброеныя АМАПаўцы...**

У той дзень 22-гадовы гарадзенец К., які нідзе не працуе, ранейужо асуджаны за крадзёж, прыехаў да свайго сябра ў Брузгі адпачыць ад жыцьця гарадзкога. А якая ж сустрэча двух старых сяброў без бутэлькі-другой? І пачалі хлопцы сапраўдную барацьбу з "зялёным зміем", змагаліся, як маглі, аднак позна ноччу выпілі ўсё дачыста. А таму моладзь пачала ліхаманкава разважаць, дзе зараз можна знайсьці дабаўку. І тут малы гуляка ўзгадаў сваю родную бабулю, якая жыла на суседняй вуліцы і якую ён ня бачыў амаль год. " У яе абавязкова павінны быць гарэлка ці грошы", - сказаў хлопец і нецьверозым поступам накіраваўся да хаты бабулі.

Жанчына, безумоўна, гасьцей не чакала, ды і якія могуць быць госьці ў дзве гадзіны ночы, а таму, калі на парозе зьявіўся нецьверозы ўнучок ды яшчэ і патрабаваў грошай, бабуля адмовіла. "Ішоў бы спаць, чорт п'яны", - гэта апошнія яе словы. Схапіўшы сякеру, унучок пачаў без разбору біць бабку па галаве. Калі ад галавы нічога не засталося, супакоіўся, сеў адпачыць.

Сын, які жыў разам з маткай у хаце, убачыў жудасную карціну. Пляменніка нідзе не было. Калгасьнік ва ўсе ногі кінуўся па суседзях клікаць на дапамогу. Калі вярнуліся да хаты, вокны і дзьверы былі ўжо зачынены, а ўнутры, узброіўшыся дзьвюма сякерамі і груба лаючыся, у чым маці нарадзіла, разгульваў п'яны ўнучок. кожнага, хто падыходзіў да хаты, ён пагражаў разьнесьці сякерай.

Аператыўная група і супрацоўнікі міліцыі Гарадзенскага РАУС, якія прыбылі на месца, адразу ацанілі становішча: каб пазьбегнуць ахвяраў дом вырашылі не штурмаваць, а спрабаваць весьці са злачынцам перамовы. Аднак ні ўгаворы родных, ні сусьедзяў, ні нават сябра, з якім яшчэ некалькі гадзін таму разам пілі, ня здолелі паўплываць на нецьверозага "барыкадыста". І толькі раніцай маладому забойцу стала зразумела, што ўсё скончана, і ён выйшаў з хаты...

Няўжо мы дайшлі да таго, што жыцьцё чалавека каштуе некалькіх бутэлек гарэлкі?

**Г.ХАЛЯНКОЎ.**

ПАГОНЯ
грамадзка-палітычная газета
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14



Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня, 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 1637. Наклад 14128.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 16.05.96

Рэдактар Мікола Маркевіч